# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 22 (2268) 28 мая 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).





## «ПЯРЭЗВЫ»

«Пярэзвы» — так называўся першы рэгіянальны фестываль беларускага народнага танца, арганізаваны Беларускім інстытутам праблем культуры, які нядаўна прайшоў у Бабруйску. У ім прынялі ўдзел танцавальныя фальклорна-этнаграфічныя калектывы, выканаўцы народных танцаў, песень, а таксама інструментальныя ансамблі народнай музыкі. Народная харэаграфія — частка нацыянальнай культуры. Фестываль дазволіў зазірнуць у сховішчы культурнай спадчыны, каб заўважыць і прааналізаваць, што захавалася, а што неабходна падтрымаць і адрадзіць, як даць новае жыццё забытаму старадаўняму пласту культуры.

Немалаважным з'яўлялася і тое, што фестываль адбываўся на Гомельшчыне, дзе ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай ідзе перасяленне людзей, а значыць — размыванне, знікненне рэгіянальнай, самабытнай культуры. Зберагчы яе для нашчадкаў — наш святы абавязак.

Шмат таленавітых, улюбёных у народнае мастацтва людзей давялося сустрэць на этапах падрыхтоўкі да фестывалю. Гэта і салісты, і фальклорна-этнаграфічныя калектывы, і песенна-танцавальныя гурты, і інструментальныя ансамблі.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## З ПОПЕЛУ НЕБЫЦЦЯ

**Пад рубрыкай «З попелу небыцця» друкуем артыкул пра яшчэ аднаго таленавітага беларускага кампазітара — Міколу КУЛІКОВІЧА-ШЧАГЛОВА. Яго багатая музычная спадчына невядомая на радзіме, толькі адзінкі чулі пра яго самога. Гэты артыкул напісаў англічанін Гай ПІКАРДА, які вывучае беларускую культуру, творчасць музыкаў, закінутых на Захад віхурамі вайны.**

## КОЖНЫ ДЗЕНЬ, КОЖНЫ ЧАС, БЕЛАРУСЬ!

Маючы на ўвазе нягоды, што сустракалі яго ў жыцьці, можна падумаць, што Мікола Куліковіч-Шчаглоў нарадзіўся ня ў тым часе і ня ў тым месцы. Гэты нязвычайна здольны й найбольш беларускі кампазытар у выніку няспрыяльных палітычных абставінаў ня здолеў дасягнуць міжнароднага прызнаньня, на якое так багата заслугоўвае.

Пра ягонае раньняе жыцьцё мы ведаем мала, найбольш зь біяграфічнае даведкі ад ягонае першае жонкі ды зь некаторых прэсавых матар'ялаў. Зь іх відаць, што Мікола Куліковіч-Шчаглоў нарадзіўся ў Маскве ў 1896 годзе (некаторыя крыніцы падаюць 1897 год) у сям'і Мікалая Шчаглова, транспартнага ўрадаўца, што паходзіў з Данскіх казакоў і які мала бываў дома. Матчыная-ж сям'я Куліковічаў паходзіла са Смаленшчыны, з усходняе Беларусі, з рэгіёну багатага на фальклёр, адкуль былі родам добра ведамыя кампазытары беларускага паходжаньня Міхал Глінка (1804—1857) і Міхал Анцаў (1865—1945).

Пасьля раньняй сьмерці ягонай маці Міколу аддалі пад апеку матчынай цёткі, што была ігуменяй праваслаўнага манастыра ў Туле. Тут хлопчык рос, браў удзел у манастырскім хоры ды за свой выдатны альт дастаў стыпендыю ў прэстыжным Маскоўскім Сынадальным Вучылішчы, якое было тады на ўзвышшы свае міжнароднае рэпутацыі пад кіраўніцтвам заслужанага дырэктара, рэфарматара расейскае царкоўнае музыкі Аляксандра Кастальскага (1856—1926). Таленавіты хлопчык-альт быў выбраны як саліст, каб суправаджаць хор у эўрапейскім турнэ з выступленьнямі ў Рыме, Парыжы ды іншых заходніх сталіцах. Няма сумневу, што глыбокі сьлед на Куліковічу-Шчаглову пакінула вышкаленьне пад кіраўніцтвам Кастальскага, чалавека, якім ён

(Працяг на 6-й стар.).

## ВЕЧНЫ АБАВЯЗАК ПЕРАД ЗЯМЛЁЙ

**Сяргей РОШЧЫН, НАМЕСНІК ГЕНЕРАЛЬНАГА ДЫРЭКТАРА ПА ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНЫХ СУВЯЗЯХ МІНСКАГА НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧАГА ЦЭНТРА «ТЭЛУР»: «МАРУ САДЗЕЙНІЧАЦЬ АБ'ЯДНАННЮ НАМАГАННЯЎ БЕЛАРУСКАГА І АМЕРЫКАНСКАГА НАРОДАЎ У ВЫРАШЭННІ ЭКАЛАГІЧНЫХ ПРАБЛЕМ».**

Запомніўся яму дзень, калі прыехаў дамоў на пабыўку і маці, паказаўшы на канверт з замежным штэмпелем, сказала: «З Амерыкі, ад сваякоў, будзеш нам перакладаць».

Ён з хваляваннем узяў незвычайнай формы канверт. З дзяцінства ведаў, што ў Амерыцы ў яго многа сваякоў. Не раз чуў, што яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя туды паехаў бацька яго бабулі па маці Андрэй Гайдук. Быў ён, паводле расказаў відавочцаў, быццам магутны дуб, а па натуры добры. Мог ні за што прынесці суседзям з лесу такую вязку дроў, што тыя за галаву хапаліся—такая сілішча!

І не вельмі здзівіліся сваякі, калі даведаліся, што ў Амерыцы справы ў Андрэя

(Заканчэнне на 4-й стар.).



З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## МАЎНА КОЙВІСТА: НАШЫ КРАІНЫ ЗАЛЕЖАЦЬ АД ЗЯМЛІ



20 мая ў Мінску з аднадзённым рабочым візітам знаходзіўся Прэзідэнт Фінляндыі Маўна Койвіста. Прэс-канферэнцыя, якую даў пасланец Суомі перад адлётам, і практычна, і па змесце ягоных адказаў як бы падводзіла рысу пад вельмі насычанай праграмай наведвання. А яна, акрамя неабходных пратакольных мерапрыемстваў, уключала афіцыйныя перагаворы фінскай і беларускай дэлегацый на чале са Станіславам Шушкевічам і Маўна Койвіста, сустрэчу з групай беларускіх парламентарыяў, а таксама перамовы з прэм'ер-міністрам РБ Вячаславам Кебічам. Нарэшце апошнія высокі госць падкрэсліў, што размова на іх, галоўным чынам, тычылася гандлёва-эканамічных зносін, якія гэтым жа днём знайшлі юрыдычнае ўвасабленне ў падпісанні двухбаковых пагадненняў аб гандлі і абароне капіталаўкладанняў.

«Мы выходзім з таго, што эканамічныя адносіны паміж нашымі краінамі дазволяць перайсці тую мяжу, якая стрымлівае нармальны гандлёвы абмен. Будуць развівацца сувязі на ўзроўні нашых прадпрыемстваў, а таксама ў іншых галінах грамадскай палітыкі: у сацыяльнай сферы, культуры. Усё гэта будзе весці нас да больш цеснага супрацоўніцтва», — адзначыў Прэзідэнт.

Журналісты сваімі пытаннямі неаднаразова вярталі фінскага лідэра да эканамічнай тэматыкі. І хоць ён паўтараў, што канкрэтныя крокі тут — не яго функцыя і задача, аднак, абагульняючы, адзначыў, што, па яго ўражанню, беларускія прадпрыемствы імкнуцца працаваць суадносна тым дамоўленасцям, якія яны заключылі, і з'яўляюцца надзейнымі партнёрамі. Гэта стварае добры зыходны пункт для міжнароднага супрацоўніцтва. Да таго ж узровень адукацыі ў Беларусі высокі, ёсць працавіты народ і спецыялісты, якія ведаюць сваю справу. На перамовах гаворка ішла таксама аб сучасных спосабах гандлю, напрыклад, аб магчымасці выкарыстання бартэру.

Паміж Беларуссю і Фінляндыяй шмат агульнага. Такой тэзы прытрымліваецца і Маўна Койвіста: «Нашы краіны знаходзяцца ў аднолькавым становішчы. Мы не маем вялікіх запасаў карысных выкапняў. Так што мы залежым ад таго, як зямля родзіць, як на ёй людзі працуюць і як яны разам выконваюць работу. Падобныя абедзве краіны і ў экалагічных адносінах. Але калі працаваць, то і такія краіны, што не маюць вялікіх прыродных багаццяў, могуць паспяхова развіваць сваю эканоміку.

Выказаўся Прэзідэнт Фінляндскай Рэспублікі і па праблемах, звязаных з раззбраеннем, Нарадай па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, пасяджэнне якой адбудзецца ў чэрвені гэтага года ў Хельсінкі.

Дыскусію ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь Маўна Койвіста ацаніў як «плённую». Дэпутаты, на яго думку, знаходзяцца на «нерве часу».

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.

**НА ЗДЫМКУ:** фінская дэлегацыя падчас наведання Хатыні.

ВІНШУЕМ ПРЭМ'ЕРА

## В. КЕБІЧ — ЧЛЕН-КАРЭСПАНДЭНТ

Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч абраны членам-карэспандэнтам Міжнароднай Інжынернай Акадэміі па спецыяльнасці «Эканоміка». Паведамленне аб гэтым, а таксама віншаванні прэм'ер-міністру змяшчаюцца ў тэлеграме, што паступіла ў Савет Міністраў рэспублікі ад імя кіраўніцтва Міжнароднай Інжынернай Акадэміі з Масквы.

ПРЫЗНАЧЭННІ

## НОВЫ САВЕТНІК С. ШУШКЕВІЧА

36-гадовы кандыдат філасофскіх навук, спецыяліст у галіне гісторыі заходнееўрапейскай філасофіі Сяргей Панькоўскі стаў новым саветнікам Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча. Ён валодае французскай і польскай мовамі, са Станіславам Шушкевічам пазнаёміўся некалькі гадоў таму назад, калі той яшчэ працаваў на універсітэце. У апараце Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Панькоўскі будзе кіраваць пытаннямі знешняй палітыкі. У бліжэйшых планах новага саветніка — стварэнне аналітычнага цэнтра па распрацоўцы розных дзяржаўных дактрын і праграм пры кіраўніцтве беларускага парламента.

Адну з першачарговых задач цэнтра С. Панькоўскі бачыць у «выпрацоўцы стратэгічных напрамкаў рэалізацыі знешнепалітычнай дактрыны Беларусі». У ёй, па словах саветніка, «будуць вызначаны знешнеэканамічныя прыярытэты, агавораны пытанні няўхільнага захавання заключаных рэспублікай дагавораў і пагадненняў, максімальны ўдзел у акцыях міжнародных арганізацый, членам якіх з'яўляецца Беларусь».

Як паведаміў карэспандэнту «Інтэрфакса» С. Панькоўскі, мяркуецца, што ў бліжэйшы час для абмеркавання гэтых пытанняў адбудзецца спецыяльнае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі.

ПРЭМІІ

## ПЕРШЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ

Прэмія імя заснавальніка беларускага тэатра Ігната Буйніцкага ўручана акцёру рускага тэатра. Уладальнікам першай нацыянальнай узнагароды стаў народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі за шэраг роляў у спектаклях Дзяржаўнага акадэмічнага рускага тэатра Беларусі.

— Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі сумесна з Міністэрствам культуры рэспублікі ўпершыню ўстанавіў некалькі нацыянальных незалежных прэмій, якія носяць імёны выдатных тэатральных дзеячаў рэспублікі — Ігната Буйніцкага, Еўсцігнея Міровіча, Кандрата Крапівы, Любові Мазалеўскай і Ларысы Александроўскай, — гаворыць старшыня СТД драматург Аляксей Дудараў. — Яны ўручаюцца рашэннем толькі грамадскай камісіі і толькі тым акцёрам, рэжысёрам, мастакам, кампазітарам, крытыкам і драматургам, якія асабліва праявілі сябе ў нялёгкай справе адраджэння духоўнасці нацыі.

Лаўрэатамі нацыянальных прэмій сталі таксама спявачка Наталля Гайда, мастак Барыс Герлаван, рэжысёр Анатоль Ляляўскі, іншыя дзеячы беларускага тэатра.

ЗАБАСТОЎКІ

## ТРАНСПАРТНІКІ ПАПЯРЭДЖВАЮЦЬ

19 мая на тры гадзіны спыніўся ў Мінску рух аўтобусаў гарадскіх маршрутаў. Такую акцыю пратэсту распачалі транспартнікі беларускай сталіцы.

З заявай аб папераджальнай забастоўцы выступілі па нацыянальным тэлебачанні кіраўнікі сёмага аўтапарка горада, якія звярнуліся да пажылых людзей, цяжарных жанчын і дзяцей з просьбай па магчымасці скараціць рух па горадзе ў гэты час.

Забастоўшчыкі прад'яўляюць вытворчаму аб'яднанню «Мінскпасажыраўтатранс» і гарвыканкому два асноўныя патрабаванні: павысіць заработную плату і ўзаконіць права на забастоўкі. З імі ж транспартнікі звярнуліся да беларускага ўрада.

Калі не будуць задаволены патрабаванні вадзіцеляў аўтобусаў, 29 мая з аўтапаркаў горада не выйдзе ніводная машына.

РАБУНКІ

## ДЛЯ РАСІІ

Нядаўна на тэрыторыі адной з воінскіх часцей горада Оршы з'явілася група людзей у форме дэсантнікаў. Нейтралізаваўшы ахову, яны захапілі склады з НЗ, загрузілі прадуктамі харчавання некалькі машын і накіраваліся ў бок Расіі. Праз некаторы час частка машын была спынена нарадамі міліцыі.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь прызнаў незаконным рашэнне Міністэрства юстыцыі аб адмове ў рэгістрацыі статута Партыі камуністаў Беларусі.

● Па папярэдніх ацэнках, рэферэндум у Беларусі, якога дамагаецца апазіцыя на чале з З. Пазняком, будзе каштаваць рэспубліцы каля 73 мільёнаў рублёў.

● За гады антыалкагольнай кампаніі, распачатай Міхаілам Гарбачовым, у Беларусі ў чатыры разы знізілася смяротнасць, выкліканая ўжываннем моцных напіткаў, і было ўратавана, прынамсі, 20 тысяч жыццяў.

● Вучоны савет Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску звярнуўся да рэспубліканскіх уладаў, каб дазволілі скасаваць імя У. І. Леніна, якое ён насіў з 1949 года.

● У абмен на яд гадзюкі, выпуск якога асвоены дзяржаўным навукова-вытворчым прадпрыемствам «Грыг» пры Інстытуце заалогіі Акадэміі навук Беларусі, рэспубліка будзе мець рэдкія лякарствы, якія можна набыць за мяжой толькі за валюту.

● Міжнародны адукацыйны цэнтр (Германія і беларускі маладзёжны цэнтр «Спутнік» наважыліся да 1994 года пабудаваць у Мінску адукацыйны цэнтр, які, на думку аўтараў праекта, стане «матэрыялізацыяй ідэі агульнаеўрапейскага дому ў мініяцюры».

● Былы цэкоўскі пансіянат «Атоліна» рашэннем урада перададзены Міністэрству сацыяльнага забеспячэння для стварэння там Рэспубліканскага дома-інтэрната для састарэлых і інвалідаў.

● На Ружанскіх могілках у Слоніме невядомымі разбураны саркафаг з чырвонага граніту, устаноўлены ў 1832 годзе, і перакопана магіла беларускага генерала Міхаіла Лявіцкага, удзельніка вайны 1812 года.

● Паміж Брэсцкай вобласцю і Бялападляскім ваяводствам Польшчы пачала дзейнічаць прамая аўтаматычная тэлефонная сувязь. Кошт 1 мінуты размовы з польскім абанентам каштуе 24 рублі.

● Тэлемарафон «Выратуем дзяцей», які праходзіў у Мінску 16 мая, сабраў, па няпоўных даных, 6 мільёнаў 873 тысячы рублёў і 2 тысячы 277 долараў ЗША.

● Вядомаму кіраўніку дабрачыннай арганізацыі «Сіці хоўп інтэрнэшнл» Полу Моару і яго сям'і, якія так многа робяць для здароўя дзяцей Беларусі, прысуджана прэмія «Сябра дзяцей» — 10 тысяч рублёў.

ВІЗІТЫ



У сталіцы Беларусі ўдзельнічала ў сумеснай нарадзе дэлегацыя камітэта Савета Еўропы па сувязях з еўрапейскімі краінамі — не членамі Савета Еўропы — і прадстаўнікі дзяржаў, якія ўваходзяць у СНД. Галоўная мэта візіту — умацаванне сувязей Еўрапарламента з заканадаўчымі асамблеямі краін Усходняй Еўропы.

**НА ЗДЫМКУ:** у час сумеснай нарады.

ЧАРНОБЫЛЬ: ВЯЛІКАЯ ХЛУСНЯ

# СОРАК САКРЭТНЫХ ПРАТАКОЛАЎ КРАМЛЁЎСКІХ МУДРАЦОЎ

(...) Для выкарыстання ўказанага мяса на харчовыя мэты і забеспячэння выпуску прадукцыі ў адпаведнасці з патрабаваннямі Міністэрства аховы здароўя СССР з улікам яго дзесяціразовага разбаўлення незабруджаным мясам неабходна арганізаваць яго перапрацоўку на мясакамбінатах большасці абласцей Расійскай Федэрацыі (акрамя горада Масквы), Малдавіі, рэспублік Закаўказзя, Прыбалтыкі, Казахстана, Сярэдняй Азіі. Старшыня Дзяржаграпрома СССР В. С. Мурахоўскі».

Яшчэ адзін дадатак да пратакола № 32, п. 11. «З 1 жніўня па ўсёй тэрыторыі СССР уступіў у сілу нарматыў на дапушчальны ўзровень утрымання радыеактыўных рэчываў у малацэ, роўны $1\cdot10^{-8}$ кі/л («чыстае» малако — у 12-й ступені. — **А. Я.**). Аднак у асобных раёнах некаторых абласцей БССР частка атрымліваемага малака яшчэ ўтрымлівае радыеактыўныя рэчывы на ўзроўні $1\cdot10^{-7}$ кі/л і не стабілізуецца на ўзроўні ўведзенага нарматыву, што ўскладняе бесперабойнае забеспячэнне насельніцтва гэтых раёнаў малаком. М. Бургасаў».

Асобы клопат аб «бесперабойным забеспячэнні насельніцтва малаком», ці не праўда? Няма «чыстага» — знізілі нарматыў, і «бруднае» адразу стала «чыстым». Бо ў тайных паперах усё сыходзіцца, усё — у патрэбных партыі, ураду і Захаду нормах, дозах, межах. Член экспертнай камісіі ВС СССР прафесар Е. Бурлакова расказала, як адзін высокапастаўлены работнік з гонарам таварыў: «Дзякуючы павышэнню ЧДУ (часова дапушчальных узроўняў) дзяржаве зэканомлена 1,7 мільярда рублёў!»

Толькі праз пяць гадоў пасля аварыі, пасля шматлікіх запытаў народных дэпутатаў СССР, Пракуратура Саюза нарэшце ўзбудзіла па фактах рэалізацыі «бруднай» прадукцыі крымінальную справу. Вось што паведамляў парламенцкай камісіі намеснік Генеральнага пракурора СССР В. Андрэеў: «...за перыяд з 1986 па 1989 год ва ўказаных зонах атрымана вышэй дапушчальных узроўняў забруджання 47,5 тысячы тон мяса і два мільёны тон малака... Толькі за межы Беларусі адпраўлена 15 тысяч забруджанага радыенуклідамі мяса. Указаныя абставіны выклікалі забруджанне радыеактыўнымі рэчывамі прадуктаў харчавання практычна па ўсёй краіне і могуць аказаць адмоўнае ўздзеянне на стан здароўя насельніцтва».

Па афіцыйнаму дазволу Савета Міністраў РСФСР у 1989 годзе «бруднае» мяса з Бранскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Жытомірскай абласцей накіроўвалася ў Архангельскую, Калінінградскую, Горкаўскую, Яраслаўскую, Іванаўскую, Уладзімірскую і іншыя вобласці.

Распаўся Саюз. Не стала ні Пракуратуры СССР, ні Генеральнага пракурора. Але вінаватых як не было пры партакратах, якія заклікалі «ўзмацняць прапагандысцкія мерапрыемствы, накіраваныя на выкрыццё лжывых выдумак буржуазных органаў інфармацыі і спецслужбаў аб падзеях на Чарнобыльскай АЭС», так няма і пры дэмакратах.

**Заканчэнне. Пачатак у № 21.**



Адна з пакінутых вёсак чарнобыльскай зоны з вышыні птушынага палёту.

Фота У. ШУБЫ.

## ХЛУСНЯ № 3. АБ ПАВЕДАМЛЕННЯХ ДЛЯ ДРУКУ

Прэсу на пасяджэнні апаратыўнай групы Палітбюро, зразумела, не дапускалі. Толькі адзін раз, 26 мая (пратакол № 18), былі запрошаны галоўныя рэдактары цэнтральных газет. Тут ім далі наказ: «Галоўную ўвагу ўдзяліць мерам, што прымаюцца ЦК КПСС і ўрадам па забеспячэнню нармальных працоўных і сацыяльна-бытавых умоў жыцця эвакуіраванага насельніцтва, ліквідацыі вынікаў аварыі, шырока адлюстроўваць актыўны ўдзел працоўных у рэалізацыі гэтых мер».

Ледзь ці не на кожным пасяджэнні разглядалася пытанне аб якім-небудзь паведамленні — для друку, тэлебачання, прэс-канферэнцыі. Усе тэксты зацвярджаліся, указвалася канкрэтная дата публікацый.

«Сакрэтна. Пратакол № 9. 8 мая 1986 г. (...) Аб выступленні па тэлабачанні тт. Вараб'ёва А. І. і Гогіна Е. Е. Улічваючы паляпшэнне становішча на Чарнобыльскай АЭС, лічыць мэтазгодным устрымацца ад указанага выступлення. (...) 6. Аб паведамленні ТАСС па пытанню ўвядзення ў шэрагу еўрапейскіх краін абмежаванняў на імпарт тавараў з СССР. Адобрыць тэкст указанага звароту. Апублікаваць яго ў друку 9 мая 1986 г. (...) 9. Аб чарговым урадавым паведамленні. Адобрыць тэкст паведамлення. Апублікаваць яго ў друку пасля асобага распараджэння».

«Сакрэтна. Пратакол № 5. 4 мая 1986 г. (...) Адобрыць тэкст звароту ТАСС. Публікацыю чарговага паведамлення ад Савета Міністраў СССР перанесці на 5 мая г. г.».

Цікава, што ні саміх тэкстаў, ні прозвішчаў іх аўтараў у пратаколах няма. І гэта, мусіць, не выпадкова: сляды лепш не пакідаць.

«Сакрэтна. Пратакол № 1. 29 красавіка 1986 г. (...) 10. Аб урадавых паведамленнях. Зацвердзіць тэкст урадавага паведамлення для апублікавання ў друку. Зацвердзіць тэкст інфармацыі кіраўнікам шэрагу капіталістычных краін аб аварыі на Чарнобыльскай АЭС і прымаемых мерах па ліквідацыі яе вынікаў. Зацвердзіць тэкст кіраўнікам шэрагу сацыялістычных краін аб стане спраў па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС».

Усё проста: для ўнутранага ўжывання — адна інфармацыя, больш правільна, дэзінфармацыя, для братоў па сацыялістычнаму лагеру — другая, для «праклятых» капіталістаў — трэцяя.

«Сакрэтна. Пратакол № 7. 6 мая 1986 г. (...) Згадзіцца з прапановай Міністэрства аховы здароўя СССР аб мэтазгоднасці апублікавання даных аб колькасці і стане хворых, якія знаходзяцца на лячэнні ў 6-й бальніцы Масквы, **улічваючы той факт, што ў гэтай бальніцы працуюць амерыканцы** (падкрэслена мною. — **А.Я.**)».

«Сакрэтна. Пратакол № 3. 1 мая 1986 г. (...) Накіраваць у раёны, што прылягаюць да зоны размяшчэння Чарнобыльскай АЭС, групу савецкіх карэспандэнтаў з мэтай падрыхтоўкі матэрыялаў для друку і тэлебачання, якія сведчаць аб нармальнай жыццядзейнасці гэтых раёнаў».

Інакш гаворачы, сачыненне на зададзеную тэму. Іншыя сачыненні — пад забарону. Часам удавалася яе абысці, часам — не.

Не ўдалася, напрыклад, спроба ўласнага карэспандэнта «Известий» М. Матукоўскага з Беларусі прыцягнуць увагу высокага пасяджэння.

«Сакрэтна. Дадатак да пратакола № 28. Тэлетайпісткам. Гэтую тэлеграму не паказваць нікому, акрамя галоўнага рэдактара. Копію знішчыць. (...) Інфармацыя. Паведамляю для вашага ведама, што радыяцыйная абстаноўка ў Беларусі значна ўскладнілася. У многіх раёнах Магілёўскай вобласці выяўлена радыеактыўнае заражэнне, узровень якога значна вышэйшы за ўзровень тых раёнаў, аб якіх мы пісалі. Па ўсіх медыцынскіх канонах, пражыванне людзей у гэтых раёнах звязана з вялікай рызыкай для жыцця. (...) Паведамляю вам гэта па тэлексу, таму што ўсе тэлефонныя размовы на гэтую тэму ў нас катэгарычна забаронены. 8 ліпеня 1986. Матукоўскі».

Трывожная тэлеграма карэспандэнта была перададзена ў аператыўную групу Палітбюро. Заслухаўшы яе, тут вырашылі: «трэба ўсё праверыць, а аб выніках далажыць аператыўнай групе да 20 ліпеня г. г.».

Больш аб гэтым непрыемным пытанні на пасяджэннях не ўспаміналі.

А вось як рыхтаваліся да прэс-канферэнцый для савецкіх і замежных журналістаў.

«Сакрэтна. 4 чэрвеня 1986 года (...) Дадатак да пратакола № 21. 2. Пры асвятленні ходу ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС: ...Асвятліць шырокамаштабныя меры, што прымаюцца па забеспячэнні бяспекі насельніцтва, асоба адзначыць клопат аб людзях, якія апынуліся на забруджанай тэрыторыі (...) 4. Указаць на беспадстаўнасць прэтэнзій і ацэнак як асобных афіцыйных асоб, так і прэсы з шэрагу заходніх краін, якія заяўляюць пра нібыта значны экалагічны і матэрыяльны ўрон, нанесены за кошт распаўсюджання невялікіх колькасцей радыеактыўных рэчываў з паветранымі масамі з зоны Чарнобыльскай АЭС».

«Невялікая колькасць» — гэта 300 хірасімскіх бомб толькі па цэзію-137. А «неістотны ўрон», паводле ацэнак незалежных экспертаў, страты краіны да 2000 года складуць 180—200 мільярдаў рублёў у цэнах 1989 года. І гэта без уліку страт, звязаных з захворваннямі тысяч і тысяч людзей.

***

Пра гэта можна доўга гаварыць. Хлусня № 4 — аб удзеле арміі ў ліквідацыі аварыі, хлусня № 5 — аб «пасадцы» Славуціча — новага горада энергетыкаў — на цэзіевую пляму, хлусня № 6 — аб падборы кадраў і «палітыка-выхаваўчай рабоце» на ЧАЭС пасля аварыі. І г. д., і да т. п.

Новыя сакрэтныя дакументы адкрываюць старыя ісціны: кожны раз, каб захаваць сябе, Сістэма павінна абавязкова тварыць зло і абавязкова ўтойваць учыненае. Пачынаючы з тайнага расстрэлу ў падвалах дома Іпацьевых дзяцей, чыя віна заключалася толькі ў тым, што яны нарадзіліся ў царскай сям'і, яна затым мільёнамі расстрэльвала нас, без суда і следства заганяла ў канцлагеры і псіхушкі. Яна забівала нас на дэманстрацыі ў Новачаркаску, укладвала ў «чорныя цюльпаны» ў Афганістане, труціла нервова-паралітычнымі газамі ў Тбілісі, кідала пад танкі ў Баку і Вільнюсе... Чарнобыль — маруднае паміранне ў радыеактыўным чадзе — з гэтага ж шэрагу злачынстваў Сістэмы супраць уласнага народа, які яна дзесяцігоддзямі метадычна знішчала, падобна міфічнай Медузе гаргоне, якая паядае сваіх дзяцей. Перамагчы гаргону, як вядома, удалося толькі адным спосабам — адсекшы ёй галаву.

**Ала ЯРАШЫНСКАЯ.**

# АМЕРЫКАНСКІЯ БУЯКІ

Папоўніць страту лясных ягаднікаў, што апынуліся ў зоне радыяцыйнага забруджвання, можна развядзеннем надзвычай прадукцыйнага сорту буякоў, тэхналогію вырошчвання якіх распрацавалі вучоныя Цэнтральнага батанічнага сада Акадэміі навук Беларусі. Гэтая ягада завезена ў рэспубліку з Паўночнаамерыканскага кантынента і адрозніваецца ад нашых лясных буякоў вельмі буйнымі пладамі і цудоўным смакам, які больш нагадвае чарніцы. Даследаванні паказалі, што ягады новага сорту намнога павышаюць супраціўляльнасць арганізма хваробам і дапамагаюць хутчэй выводзіць радыенукліды.

Размнажаюцца буякі чаранкамі, але паколькі такім чынам могуць перадавацца набытыя раслінамі хваробы, вучоныя пачалі вырошчваць пасадачны матэрыял з культуры тканак метадам кланіравання. У стэрыльных прабірках на пажыўным асяроддзі з кавалачкаў жывой раслиннай тканкі ўзнімаюцца новыя парасткі, якія пазбаўлены мікраарганізмаў і маюць таму павышаную прадукцыйнасць. З такіх усходаў і атрымліваюць прыгодныя для пасадкі расліны.

Эксперыменты на доследных участках паказалі, што акультураныя буякі вельмі добра растуць у Брэсцкай вобласці і на поўдні Мінскай. Што ж тычыцца паўночных раёнаў рэспублікі, то для іх вучоныя спадзяюцца вывесці больш устойлівыя да халадоў сарты. У Гомельскай вобласці, хаця і прыгоднай для вырошчвання амерыканскай госці па кліматычных умовах, разводзіць буякі, на думку батанікаў, не варта, таму што да іонаў цяжкіх металаў яны «нераўнадушныя» — назапашваюць іх гэтак жа актыўна, як і выводзяць з арганізма.

## СТАРОНКІ БАГАТАЙ І НЕЗНАЁМАЙ ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

# У ПОЛАЦКАЙ НАСТАЎНІЦКАЙ СЕМІНАРЫІ

## УСПАМІНЫ

Куратар для нас быў вялікім начальствам — другой пасля міністра асобай. Экзамены ў ягонай прысутнасці былі экзаменамі не толькі для семінарыстаў, але і для настаўніцкага персаналу семінарыі: для першых — праверкай ведаў, падрыхтаванасці да працы, для другіх — іх педагагічных здольнасцяў. Пакуль куратар быў у семінарыі, усе хадзілі на пальцах. Ва ўсе гады маёй вучобы экзамены праходзілі добра.

Другім ганаровым госцем на экзаменах па багаслоўю быў епіскап полацкі і віцебскі. Пасля вусных адказаў семінарыстаў ён разам з куратарам праслухоўваў царкоўны хор і быў ім задаволены. Ён прасіў куратара накіраваць лепшых спевакоў настаўнікамі ў царкоўнапрыходскія школы, але куратар з гэтым не пагаджаўся: маўляў, нам і самім такія патрэбны. Услед за епіскапам неадступна хадзіў полацкі паліцмайстар Шчарбінскі: у час экзаменаў, калі епіскап быў у актавай зале, ён таксама сядзеў там жа. Гэты паліцмайстар (пазней спраўнік Гарадоцкага павета) быў вядомы не толькі тым, што пяцьдзесят гадоў адпрацаваў на казённай службе, але, галоўнае, тым, што ніколі не быў у водпуску (у тыя часы гэта істотна ўплывала на ацэнку чыноўніка).

Восенню 1889 года заехаў у Полацк і наведаў нашу семінарыю оберпракурор сінода К. Пабеданосцаў — усемагутнейшая ў тыя часы асоба пры Аляксандры III. Нас, семінарыстаў, для сустрэчы высокага госця выстраілі ў калідоры другога паверха ўздоўж абедзвюх сцен. Дырэктар з настаўнікамі сустракалі госця ўнізе, каля ўваходных дзвярэй. У суправаджэнні дырэктара оберпракурор прайшоў у семінарскую царкву, а настаўнікі за імі. Пакуль госць быў у царкве, нас перавялі ў актавую залу, дзе ён пазней праслухаў наша спяванне.

Не памятаю ўжо, у якім годзе адведаў семінарыю і віцебскі губернатар князь Далгарукаў, брат вядомага маскоўскага генерал-губернатара, які займаў гэтую пасаду шмат гадоў. Мы, семінарысты, і на гэты раз былі пастроены ўздоўж сцен калідора. Губернатар прайшоў паміж намі ў царкву, але хутка вярнуўся. Нагогул у семінарыі ён доўга не затрымліваўся. У сувязі з прыездам губернатара мне ўспомнілася вось што: калі ў інтэрнаце я жыў першы год, семінарысты, вярнуўшыся з велікодных канікулаў, расказвалі, што ў Віцебску былі сялянскія хваляванні з-за збожжа. На рыначную плошчу, дзе адбываліся хваляванні, з'явіўся губернатар Далгарукаў. Бачачы, што сяляне не звяртаюць на яго ўвагу, ён крыкнуў на людскі натоўп: «Шапки долой!» Гэта ўсхвалявала натоўп яшчэ больш, абражаныя сяляне пабілі губернатара.

### РАЗВІТАЛЬНАЯ, ЦІ ДАРАВАЛЬНАЯ НЯДЗЕЛЯ

У старадаўнасці ў некаторых манастырах Усходу, напрыклад, у Палесціне, быў звычай: на вялікі пост манахі пакідалі манастыр і разыходзіліся па пустыні, каб там каяцца ў грахах. Але паколькі за сорак дзевяць дзён посту некаторыя з іх маглі памерці, так і не дачакаўшыся Вялікадня, у такіх манастырах быў заведзены наступны парадак: адпраўляць велікоднае набажэнства загадзя — у апошнюю нядзелю перад вялікім постам, калі яшчэ ўсе былі на месцы. Пасля набажэнства манахі развітваліся адзін з адным, просячы пры гэтым дараваць, калі яны зрабілі якое зло. А затым разыходзіліся па пустыні. Такі ж звычай быў у некаторых манастырах у Расіі, хаця манахі адтуль нікуды не адыходзілі. Захоўваўся ён і ў полацкім жаночым Ефрасіннеўскім манастыры. Таму апошнюю нядзелю перад вялікім постам там называлі развітальнай ці даравальнай. У гэты дзень многія палачане ішлі ў манастыр на так званае велікоднае набажэнства. Тут я чуў яго ўпершыню на славянскай мове, упершыню таксама чуў жаночы хор — спявалі манашкі.

Тады ж багамольцы ішлі цалаваць рэліквію — сярэдні палец рукі заснавальніцы манастыра Ефрасінні (прывезены сюды ў 1870 годзе з Кіева, дзе знаходзіліся тады яе астанкі). Рэліквія захоўвалася на хорах манастырскай цэркаўкі ў невялічкай келлі, дзе калісьці жыла Ефрасіння. Туды вёў вузкі і нізкі калідор. У келейцы — столік (аналой), ля якога сядзела манашка. На століку стаяў невялічкі куфэрачак (рáка), дзе пад шклом віднелася рэліквія. Мне здалося, што палец ужо вельмі ўчарнеў. Але доўга разглядаць яго не мог, бо трэба было даць месца іншым. Усе цалавалі шкло, за якім быў палец, і адыходзілі.

Пазней, у Веліжскім павеце, дзе было маё першае працоўнае месца, сустрэўся я з такой традыцыяй: вечарам, у апошнюю нядзелю перад вялікім постам, вясковыя жыхары хадзілі адзін да аднаго, развітваючыся і просячы дараваць зло, зробленае няхай толькі ў думках.

### ПАМІНАЛЬНЫ ДЗЕНЬ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

Кожны год 23 мая было ў Полацку вялікім царкоўным і народным святам: у гэты дзень у 1173 годзе ў Іерусалімскім жаночым манастыры памерла полацкая князёўна Ефрасіння. Пазней яе мошчы былі перавезены ў Кіеў. Палачане ведалі жыццяпіс Ефрасінні і шанавалі памяць пра яе. У полацкім манастыры ў мае часы была толькі невялікая цэркаўка, якую заснавала Ефрасіння. Расказваюць легенду: пры будаўніцтве цэркаўкі не хапіла цэглы, але аднойчы ўначы цэгла нейкім цудам, немаведама адкуль, знайшлася, і будаўніцтва цэркаўкі было закончана.

На памінальны дзень у Полацк зблізку і здалёку збіралася многа багамольцаў. Ужо напярэдадні свят прыезджыя сяляне займалі сваімі вазамі ўсю плошчу перад манастырскай брамай і ўздоўж дарогі ў горад, дзе заставаліся на ноч і на другі дзень — да сканчэння набажэнстваў. На свята прыязджаў з Віцебска і епархіяльны епіскап. Святкаванне пачыналася працэсіяй ад Мікалаеўскай царквы ў манастыр: ішоў саборны клір з харугвамі і крыжамі, харысты, спяваючы малітвы, а за імі — натоўп людзей. У цэркаўцы і перад ёю служыліся паніхіды. Людскі натоўп рэгуляваў прыстаў з павялічаным нарадам паліцыі, асабліва пры набліжэнні багамольцаў да рэліквіі.

Аднойчы пасля богаслужэння мы, семінарысты, упершыню агледзелі ваколіцы манастыра. За манастыром бачылі ўваход у нейкае падзямелле. З зямлі цурком выбівалася вада; побач раслі дрэвы. Адразу ж за манастыром цякла рэчка Палата.

***

Праз адзінаццаць гадоў я зноў перагартаў свае ўспаміны аб Ефрасінні Полацкай. Увесну 1910 года яе мошчы перавезлі з Кіева на радзіму, у Полацк. Тут, у манастыры, была пабудавана новая вялікая царква. Для перавозкі мошчаў Ефрасінні быў пасланы ў Кіеў рэдактар газеты «Віцебские губернские ведомости» М. Анцаў. У Кіеве ён прысутнічаў, калі свяшчэннікі адкрылі труну, а медыкі разам з імі аднялі руку Ефрасінні, каб пакінуць яе ў Кіеве. Усю дарогу па Дняпру ад Кіева да Оршы Анцаў плыў на тым самым параходзе, на якім перавозілі мошчы. Падрабязны расказ аб сваіх назіраннях ён апублікаваў у віцебскай газеце.

Затым некалькі дзён труна знаходзілася ў Віцебску, дзе я тады жыў. Яна стаяла ў Мікалаеўскай царкве, і там днём і ноччу адбываліся богаслужэнні. Багамольцам для пакланення (цалавання) была адкрыта толькі рука мошчаў у адмысловай пальчатцы. Віцебскае гарадское праўленне зрабіла для мошчаў новую шыкоўную скрыню (рáку). З Віцебска труну вынеслі з такім разлікам, каб прынесці яе ў Полацк 23 мая. Працэсія займала ўсю шашу і цягнулася на якіх тры кіламетры. Большая частка прысутных, пагледзеўшы крыху з Воўчай гары, як труну panеслі на чыгунку і далей, вярнулася назад. Паміж тымі, хто праводзіў, быў таксама віцебскі губернатар П. Гершан-Флотаў і камандзіраваны з Пецярбурга прадстаўнік міністра ўнутраных спраў Кошкін — абодва ў белых кіцелях, з непакрытымі галовамі. Конна ехаў толькі жандарскі палкоўнік.

**Юрыс КРЭЙЦ.**

Працяг. Пачатак у №№ 20, 21.

# ВЕЧНЫ АБАВЯЗАК ПЕРАД ЗЯМЛЁЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

пайшлі на лад. Добрае семя ўпала на ўрадлівую глебу, гаварылі яны. А потым не раз і не два з гонарам за сваю радаслоўную паўтаралі гэтыя словы. Спачатку Андрэй вывез у Амерыку сваю сястру Яўгенію, а праз некалькі год—і малодшую сястру Алену, а трэцюю, дваюрадную—у семнаццатым годзе.

Праўда, сам ён у 1925 годзе нечакана вярнуўся ў Беларусь, у родную вёску Дзягільна пад Мінскам. Растлумачыў свой учынак проста: «Жыць чалавек можа ўсюды, а паміраць трэба на роднай зямлі». Неласкавай мачыхай сустрэла яго савецкая радзіма. У трыццатыя гады прaзвалі Андрэя кулаком і хоць не выслалі, але закляймілі ганьбай з галавы да ног, і ў 1937 годзе ён памёр.

А ў Амерыцы тым часам кінутае ім насенне давала ўсё больш шчодрыя ўсходы. Сёстры ўдала павыходзілі замуж, з'явіліся дзеці і ўнукі, і сёння ў Сяргея там ужо каля дваццаці пяці сваякоў. Вялікая, дружная дынастыя, якая заўсёды помніць роднасць і Радзіму.

Ён яшчэ раз пераканаўся ў гэтым, калі адкрыў канверт. Сёстры запрашалі яго прыехаць у госці да іх. Шчыра і настойліва запрашалі. І ён вырашыў ехаць. Так у 1988 годзе ўпершыню ступіў Сяргей Рошчын на амерыканскую зямлю, а ў наступным годзе паўтарыў свой візіт за акіян.

Паездкі далі Сяргею Рошчыну нешта большае, чым радасць сустрэчы і сувязі з роднымі. Наведваючы іх у розных штатах, ён убачыў Амерыку. Убачыў Нью-Йорк і Лос-Анджэлес, Балтымор, небаскробы і патанулыя ў бязмежным зялёным моры прыгарады, раўніны і горы, рэкі, азёры. У той час ён, зусім яшчэ малады выпускнік Белдзяржуніверсітэта, быў няштатным карэспандэнтам створанай у Мінску маладымі вучонымі-энтузіястамі навуковай групы «Квазар», якая праводзіла даследаванні ў галіне космасу і аховы навакольнага асяроддзя. Ён ведаў вялікую цікавасць «Квазара» да вопыту амерыканцаў па выратаванню сваёй зямлі ад згубнага ўздзеяння цывілізацыі ў выглядзе магутных хімічных, энергетычных і іншых вытворчасцей, выхлапных газаў і г. д. І ён прагна ўспрымаў уражанні, параўноўваў, абагульняў. Паступова прыходзіў да цвёрдага пераканання: культура цывілізаваных адносін да прыроды павінна быць закладзена ў мазгах у людзей увогуле і кожнага чалавека ў прыватнасці. Менавіта ў гэтым крыецца сакрэт бясспрэчных поспехаў амерыканцаў у абароне навакольнага асяроддзя. З пялёнак выхоўваюцца яны ў духу такой культуры, глыбокай любові і беражлівых адносін да прыроды.

А яшчэ ўразіла яго амерыканская галоснасць як адна з вялікіх заваёў дэмакратыі. Няцяжка было пераканацца, у прыватнасці, што нават самыя нязначныя збоі ў рабоце АЭС становяцца здабыткам шырокай грамадскасці. Ці не ў гэтай галоснасці крыецца сакрэт самай высокай самадысцыпліны і адказнасці персаналу тых жа атамных станцый і любога прадпрыемства наогул?

Каб была ў нас падобная галоснасць і адказнасць—наўрад ці здарылася б аварыя на Чарнобыльскай АЭС. А то ж і вынікі гэтай аварыі спачатку хавалі за шырму сакрэтнасці...

— Вярнуўся я на Радзіму,—з усмешкай працягвае Сяргей Канстанцінавіч,—і ў першы ж выхадны адправіўся з сябрамі ў зону адпачынку пад Мінскам—Крыжоўку. Увайшлі ў малады лес, што непадалёку ад чыгункі, і мяне ўразіла: горы смецця—кансервавыя бляшанкі, цэлафанавыя пакеты, бутэлькі...

Упэўнены, што ў Амерыцы падобнае расцанілі б як дыверсію, і пошукам тых, хто яе ўчыніў, неадкладна занялася б паліцыя. А ў нас у курортнай зоне, на вачах усіх самазвал скідвае смецце... І нічога, сыходзіць з рук. А ці ведае вадзіцель, што прывезеная ім цэлафанавая плёнка будзе ляжаць у зямлі трыста гадоў і ў прамым сэнсе слова атручваць, душыць яе? Наўрад ці. Вось чаму пытанне пытанняў для нас — папоўніць у людзей прабел ведаў у галіне экалогіі, выхаваць у кожным пачуццё адказнасці за здароўе нашай кволай і ўвогуле безабароннай планеты.

Такую асноўную мэту і ставіць перад сабой наш даследчыцкі цэнтр «Тэлур» (па латыні—роджаны зямлёй). І вядома, на першым плане ў нас праблемы барацьбы з радыяцыяй—як пранікаючай да нас праз азонавыя дзіркі ў атмасферы, так і са сваёй роднай, чарнобыльскай. Дарэчы, здзівіла і, не ўтаю, парадавала мяне цікавасць амерыканцаў, асабліва тых, чые карані прарасталі на беларускай зямлі, да нашых чарнобыльскіх спраў і праблем. Магу з поўнай падставай сказаць: беларуская эміграцыя рупіць аб сваёй Радзіме, сумуе па ёй і гатова аказаць ёй усямерную падтрымку і дапамогу. Пераканаўся ў гэтым, у прыватнасці, калі гасціў у сям'і маёй сваячкі Яўгеніі Мацкоў, галава якой—буйны рэлігійны дзеяч і кнігавыдавец, мультымільянер.

Аднак амерыканцы хочуць дакладна ведаць, ці дойдзе іх дапамога да адрасата і ці будзе яна эфектыўнай. І гэта зразумела, бо людзі яны па натуры сваёй дзелавыя, практычныя, ні слоў, ні грошай на вецер не кідаюць.

Так, аксіёма: як паветра, патрэбны нам цяпер шырокія і пастаянныя кантакты з Амерыкай. Аднак яны становяцца праблематычнымі хаця б з-за астранамічных цэн на білеты міжнародных авіярэйсаў. Дзе ж выйсце? Я перакананы, што вялікую карысць прынёс бы нашай рэспубліцы чалавек, які паехаў бы ў ЗША ў доўгую камандзіроўку з адной мэтай: быць своеасаблівым паўпрэдам Беларусі ў эміграцкіх колах, несці ім максімум інфармацыі аб станаўленні Беларусі як незалежнай дзяржавы, прадметна і паўсядзённа займацца пытаннямі аказання ёй дапамогі. Ці гатовы я да такой ролі? Гатовы. Мару садзейнічаць аб'яднанню намаганняў беларускага і амерыканскага народаў у вырашэнні экалагічных праблем.

**Уладзімір ПАЎЛОВІЧ.**

## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# МАРАФОН ПЁТРА ЧАЙКОЎСКАГА НА СЛУЖБЕ ДАБРАЧЫННАСЦІ

Чытачы «Голасу Радзімы» ўжо сустракаліся з Пётрам Чайкоўскім, калі ён першы раз наведаў свой родны кут у жніўні 1991 года. Нават «пераварот», які адбыўся перад яго вачыма, не запалохаў яго, каб прыехаць у сталіцу Беларусі і адначасова пазнаёміцца з рэдакцыяй «Голасу Радзімы». Ён, узрушаны, расказваў рэдактару газэты, што каля 14 гадоў таму назад лекары яму далі выбар: калі не кінеш курыць, застанецца табе 6 месяцаў жыцця. Безумоўна, яму, як і ўсім іншым, уміраць без пары не хацелася. І ён кінуў курыць. Каб адцягнуць думкі ад курэння, заняўся фізічнай трэніроўкай, пачаў браць удзел у марафонскім бегу. За гэтыя гады ён мае 26 поўных марафонаў, а колькі карацейшых, дык і не палічыш. Вярнуўшыся ў Англію, Чайкоўскі пачаў рыхтавацца да чарговага восеньскага марафона, каб знайсці як найбольш добраахвотных грашовых падпісчыкаў і пераслаць усё сабранае ў фонд дапамогі чарнобыльскім ахвярам. Я асабіста аказваў дапамогу Пётру ў гэтай справе сярод сваіх беларусаў і суседзяў-англічан. Але нашаму Пётру не пашанцавала. У часе трэніроўкі ён натужыў мускульны нерв у назе, і афіцыйны доктар марафона не даў яму згоды да бегу. Нягледзячы на гэта, беларусы, якія падпісалі марафонскую форму, аднагалосна пастанавілі: так ці інакш выслаць гэтыя грошы на дапамогу чарнобыльскім ахвярам. Так і было зроблена. Але вось зноў набліжаецца час найбольш вядомага і папулярнага марафона, які адбыўся ў Лондане 12 красавіка. Сюды з'ехаліся і прафесіяналы, і аматары з усяго свету. У гэтым годзе ўзялі ўдзел 35 тысяч людзей рознага ўзросту. Ва ўзроставай групе нашага Пётра (65—70 год) удзельнічала больш як 150 асоб. Перад апошнімі некалькімі тыднямі можна было бачыць, як Пётра Чайкоўскі ў кашулі з надпісам: «Пакінь курыць, калі хочаш жыць» робіць дзесяткі кругоў па нашым гарадскім парку. У часе перапынку ён з той самай шырокаю, шчырай усмешкай гаворыць, што гэтым разам ён не падкачае...

Апроч фізічнай падрыхтоўкі, ён зрабіў вельмі ўдалы тактычны ход адносна грашовых подпісаў марафонскіх формаў. Ён, як прыхаджанін касцёла святога Аўгуста ў горадзе Лідсе, пазнаёміў святара парафіі з чарнобыльскай трагедыяй і расказаў, што сам бачыў на свае вочы на Беларусі, даў яму прачытаць аб гэтай трагедыі лістоўку ў англійскай мове, выдадзеную беларускай арганізацыяй у Лондане. Як Пётра прадбачыў і спадзяваўся, у наступным богаслужэнні, пасля духоўнай пропаведзі, святар касцёла гаварыў сваім парафіянам аб Чарнобылі, што Беларусь і яе дзеці патрабуюць дапамогі. «Мусіць няма ў свеце ні адной асобы, якая б не чула назоў «Чарнобыль»,— гаварыў святар,—для большасці з нас гэта служыць перасцярогай аб далёкай, жахлівай небяспецы. Для другіх Чарнобыль стаўся жывым пеклам». У далейшых словах ён зазначыў, што хоць Чарнобыль размешчаны на Украіне, але большасць ядзернага забруджання выпала на зямлю Беларусі. Беларусь, асабліва яе дзеці, патрабуюць дапамогі не толькі лякарствамі, але і фінансамі, каб купіць і выслаць сучасныя «Сканары», якія дапамагаюць дактарам зрабіць дыягназы хваробы. «Наш прыхаджанін Пётра Чайкоўскі,—працягваў святар,—будзе браць удзел у Лонданскім марафоне, каб сабраць найбольш грошай. Нашым святым і хрысціянскім абавязкам трэба дапамагчы беларускім дзецям. Дзеля гэтага прашу ўсіх прыхаджан падпісаць грашовую ахвяру і ўлажыць у канверцікі, падрыхтаваныя на гэта ля ўваходу ў касцёл. Для тых, хто не ведае, дык наш прыхаджанін Пётра родам з Беларусі, таму яму так баліць гэта трагедыя». Святар узяў адну падпісную форму і, развітваючыся з Пётрам, казаў, што пойдзе сам да тых, хто не быў прысутны на сённяшняй богаслужбе. У наступным тыдні ўсё гэта ён змясціў у тыднёвай праграме духоўнага і сацыяльнага жыцця гэтай парафіі.

Пётра, з свайго боку, звяртаецца да ўсіх суайчыннікаў, дзе б яны ні былі, зрабіць дапамогу і выслаць грошы, колькі хто зможа, непасрэдна ў Лонданскі цэнтр для дапамогі чарнобыльскім ахвярам або ў беларускія цэнтры дзяржаў, у якіх яны жывуць.

**Алесь ГАТКОВІЧ.**

Англія.

# ЦАЛАВАЎ ЯСТРАБ КУРАЧКУ...

У рэдакцыю газеты «Голас Радзімы».

Браты-Беларусы!

У шостым нумары «Голасу Радзімы» на старонцы «Падзеі, людзі, факты» ставіцца важнае пытанне: «Дзе нас не любяць?» На гэтае пытанне дакладна адказаць немагчыма, як гаворыць прыказка: «Адзін любіць папа, а другі—папову жонку». У той заметцы згадвалася пра тое, дзе і як ставяцца да беларусаў. У прыватнасці: на Украіне толькі 14 працэнтаў апытаных зведваюць нядобрыя пачуцці да беларусаў. Я ўкраінец, нашчадак слаўных драўлян—бужан, паляшук з Драгічынскага павета Берасцейскай вобласці. Сябры новазаснаванага палескімі патрыётамі, шчырымі грамадзянамі сваёй Бацькаўшчыны Украінскага культурнага аб'яднання Берасцейшчыны прыслалі мне першы і другі нумары часопіса «Голас Берасцейшчыны». І больш не шлюць, бо дзяржаўныя інстытуцыі, да кампетэнцыі якіх належыць прэса, а па словах неўмiручага нашага бацькі Тараса Шаўчэнкі, «рабы Отечества чужого», налажылі сваю калматую лапу і забаранілі выпуск згаданага часопіса. Дык ці ўкраінскі чалавек цвярозага розуму можа крывіць душою і любіць згаданых прэваратняў або тых, аб якіх у мінулым годзе рэдакцыя «Голасу Радзімы» выказалася: «Друкуюць дзеля адчэпнага дзве-тры заметкі на беларускай мове?»

А што тычыцца расіянаў, у якіх стаўленне да беларусаў «больш-менш станоўчае», то яны кіруюцца мудрасцю: «Цалаваў ястраб курачку да апошняга пёрка».

Асабіста я люблю братоў-беларусаў, бываю ў іхніх царквах на богаслужэннях і з задавальненнем слухаю айца Міхаіла Бурноса, калі ён падчас літургіі згадвае ўкраінскага патрыярха Мсціслава Першага. Гэтаксама з прыемнасцю і павагай прыймаю словы і айца Уладзіміра, настаяцеля нашай царквы, калі ён успамінае ўладыку Ізяслава, галаву Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, незалежнай ні ад Масквы, ні ад Рыма, ні ад Стамбула. Але не стаўленіка якогась Маскоўскага патрыярха Экзарха Філарэта.

З належнаю пашанаю да ўсіх беларусаў

паляшук **О. КОМАР.**

Аўстралія.

**Р. S. Шаноўная рэдакцыя. Калі вы пачуваецеся вольнымі людзьмі, то прашу: надрукуйце ў арыгінале ці перакладзе на беларускую мову маё шчырае пасланне. Некалі жыў кіламетры тры ад правага берага рэчкі Ясельды, я чытаю і разумею па-беларуску, хоць, на жаль, пісаць не магу. Вось да чаго нас і вас давялі за вашым жа акрэсленнем «больш-менш станоўчыя» адносіны расейцаў.**

# ПАЭТКА, МАСТАЧКА ТАМАРА БОЛДАК-ЯНОЎСКАЯ

Нядаўна ў Ваяводскай педагагічнай бібліятэцы, што ў горадзе Ольштыне, праходзіла выстава мастачкі Тамары Болдак-Яноўскай пад назваю «Бедныя малюнкі». Дэманстраваліся 75 малюнкаў і 14 твораў разьбы па дрэву. Гэта не першая яе экспазіцыя, якую яна ладзіць разам са сваім мужам, па прафесіі настаўнікам. Ужо каля дваццаці гадоў Тамара малюе іконы, займаецца графікай, разьбой у двух стылях — візантыйскім і армянскім.

...Нарадзіўся гэты чалавек, шчодра адораны талентам, у Нарэйках, у адзінокай хаце ля чыгункі, дзе жылі бацькі. Бацька Тамары быў музыкам, іграў на гармоніку, цешыў людзей беларускімі песнямі. Дзяўчынка бавілася з дзецьмі на зялёных лугах, берагах невялічкай рэчкі, слухала спевы птушак. З маленства запалі ў сэрца белыя бярозкі, што раслі ля Мастаўлянскай царквы, дзе служба тады вялася на роднай мове. Вучылася ў ліцэі, потым на факультэце славянскай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Настаўнічала пад Варшавай, потым выкладала ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Ольштыне, адкуль была звольнена пасля прыходу да ўлады «Салідарнасці». У школе пазнаёмілася з Антонам Яноўскім, які стаў яе мужам, аднадумцам і партнёрам у творчасці...

На сваіх вернісажах Тамара Болдак-Яноўская часта дэкламуе вершы, спалучаючы слова з вобразам. Яе паэзія інспіравана беларускім пейзажам і артадаксальнай літургіяй. У 1985 годзе ў Ольштыне выйшла яе паэтычная кніжка «Пад Міраю». Праз тры гады разам з мужам паэтэса надрукавала вершы з цыклу «Малыя пейзажы». Некалькі яе паэтычных кніжак будуць друкавацца ў Англіі.

Сама Тамара гаворыць, што з задавальненнем выстаўлялася б у Мінску ці Гродне, дык цяперашнім часам бракуе спонсараў. Хацелася б звярнуцца да беларусаў свету, каб дапамаглі ў гэтай высакароднай справе мастачцы з Беласточчыны.

Польшча. **Андрэй ГАЎРЫЛЮК.**

# ГЭТА НАША СПАДЧЫНА

З вялікім задавальненнем прачытаў артыкул «Цярністы шлях Міколы Равенскага» ў «Голасе Радзімы». У даны момант я таксама рыхтую да публікацыі матэрыял аб жыцці і творчасці гэтага цікавага і прывабнага кампазітара, аб дзейнасці якога пісалі толькі ў пачатку ўтварэння БССР у часопісах «Советская музыка», «Узвышша» ды іншых спецыялізаваных выданнях. Ён быў, безумоўна, у першую чаргу збіральнікам і аранжыроўшчыкам фальклорных песень і, па словах Аладава, разам з Чуркіным самым пладавітым сярод ранніх фалькларыстаў. Большая частка яго твораў адносіцца да перыяду да 1914 года, калі ён жыў і працаваў на Навагрудчыне.

Яго ранняя харальная музыка, якую ён стварае ў стылі аперэты — «Гапон» на словы Дуніна-Марцінкевіча, на вершы Коласа, Купалы, Багдановіча — мела ідэалістычную афарбоўку і была падобнай на лёгкую музыку венецыянскай школы.

У нашай бібліятэцы ёсць вельмі добрая падборка канцэртных аранжыровак Равенскім народных песень, а таксама царкоўнай музыкі як для змешанага, так і толькі для мужчынскага хору.

Я дасылаю вам два экземпляры літургічнай музыкі Равенскага, якая была яго першым каханнем. Таксама дасылаю яго разухабісты твор «У карчме» з «Гапона».

Акрамя 40-й гадавіны з дня смерці Равенскага ў 1953 годзе, у наступным годзе мы будзем таксама адзначаць 50-ю гадавіну прэм'еры ў Менску першай «неідэалагічнай» оперы Куліковіча-Шчаглова «Лясное возера» на лібрэта Н. Арсеньневай. Даўно прыйшоў час, каб гэты выдатны твор і наступны за ім «Усяслаў Чарадзей, князь Полацкі» зноў бы з'явіліся перад беларускімі гледачамі, а таксама перад іншымі аматарамі музыкі ва ўсім свеце.

**Гай ПІКАРДА.**

Англія.

## ВОДГАЛАС

# МЫ БЫЛІ Б ХАЛОПАМІ

Сам я ўраджэнец вёскі Пяскі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, а таму аб падзеях 1939 года ведаю не па чутках. Я поўнасцю не згодны з тым, што вы там напісалі, таварыш вучоны. У нашай мясцовасці пражывалі і палякі, і тутэйшыя, і высылалі ў Сібір усіх. Магу прывесці прыклады, назваць вёскі, дзе высылалі тутэйшых, а ўсе палякі засталіся, калі гэта былі людзі простыя, іх не краналі, а вось з тымі, якія былі на чале ўлады,— іншая карціна. У Заходняй Беларусі чалавеку, калі ён не быў каталікам, пасля гімназіі немагчыма было паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову ці на службу ва ўстанову. А так як у Брэсцкай вобласці 95 працэнтаў тутэйшых былі праваслаўнымі і вера была вельмі моцная ў народзе, то нам ходу не давалі. Але апалячванне ішло такімі тэмпамі, што да гэтага часу, калі б не вызваленне ў 1939 годзе, ужо б нас, заходнікаў, і ў паміне не быко.

Вось прыклад: мой дзядзька, Дземідзюк Леў Філіпавіч, скончыў гімназію з адзнакай, а далей нават на лесніка вывучыцца не змог, і ўсё таму, што бацька яго быў праваслаўным і не дазволіў сыну прыняць каталіцкую веру. Ці паглядзіце царкоўную кнігу Чэравачыцкай царквы Кобрынскага раёна (яна знаходзіцца цяпер у ЗАГСе Кобрынскага раёна). Там усе запісы аб нараджэнні, смерці, шлюбе правяраліся ксёндзам і рабіліся на польскай мове. У школе выкладанне вялося толькі на польскай мове, разрыўку не дазвалялася весці па-беларуску: ні спяваць, ні дэкламаваць і г. д.

Гэта ўсё адбівалася на настроях жыхароў. Даймалі ўсякія кары, штрафы, нават за драбязу. Штрафы накладвалі начальнікі, а ўсе начальнікі былі палякі. Таму не дзіўна, што пасля далучэння незадаволенасць вылівалася на іх.

Але што б вы ні пісалі, таварыш вучоны, калі б не 1939 год, то мы ўжо не былі б беларусамі, а былі б хлопамі. І не было б у нас ні сваіх настаўнікаў, ні аграномаў, ні вучоных. Палякі спакон веку хацелі кіраваць заходнімі беларусамі, але дзякуй 1939 году, што выратаваў нас ад панскага прыгнёту. А што там было ў партыйных вярхах, то, я думаю, і вам не разабрацца, як і цяпер.

Вось наконт кіраўніцтва не магу з вамі пагадзіцца. Вы пішаце, што ў міліцыю не бралі тутэйшых. Няпраўда, мой дзядзька па мацярынскай лініі Ратайка Антон Іванавіч служыў у міліцыі ў званні старшага лейтэнанта. Так, выгналі паліцыю, якая біла, мучыла, беларусаў, і патрэбны былі кадры, а адукаваных людзей не было. Я пісаў вышэй пра гэта. Не было настаўнікаў беларускіх, і вось было прыслана папаўненне з усходніх раёнаў. І мяне вучыла настаўніца з Гомельскай вобласці, дачка селяніна, якая скончыла Рэчыцкае педвучылішча Раіса Васільеўна. Яна і па сённяшні дзень жыве тут. Выйшла замуж за мясцовага беларуса.

У 1939 годзе бацька змог паступіць на службу ў пажарную ахову ў Кобрыне. Многія яго таварышы з нашай вёскі таксама служылі ў міліцыі і іншых дзяржаўных установах. Так што вы не ведаеце сапраўдных спраў у Заходняй Беларусі. Прыехалі б да нас гадоў пяць—дзесяць таму назад, калі яшчэ жывыя былі тыя, хто сустракаў у 1939 годзе Чырвоную Армію хлебам-соллю, яны б вам расказалі праўду. Але і цяпер яшчэ не позна: той-сёй з таго пакалення жывы. Так што прыязджайце — чакаем.

**Павел ТУР.**

## ЗНАЙШЛА СЯБЕ Ў ТВОРЧАСЦІ



Прыгожыя апраравы ікон стварае Марыя Харытончык з Чырвонага Сяла, што ў Зэльвенскім раёне. Усякі, хто ўбачыць іх, міжволі залюбуецца філіграннасцю работы.

...Хвароба спасцігла Марыю яшчэ ў дзяцінстве. У выніку — інвалідная каляска, доўгія гады лячэння. Немач не адступае, але і Марыя не здаецца. Сілы для жыцця, цікавасць да навакольнага свету чэрпае яна ў творчасці. Дзяўчына вышывае, вяжа, але самым любімым яе заняткам стаў выраб апраў ікон. Робіць іх Марыя з простага матэрыялу — фольгі.

На жаль, чорна-белая фатаграфія не можа поўнасцю перадаць усё багацце колеру і прыгажосць работ Марыі Харытончык.

НА ЗДЫМКАХ: Марыя ХАРЫТОНЧЫК і яе работа.

Фота У. МЯЖЭВІЧА.



# КОЖНЫ ДЗЕНЬ, КОЖНЫ ЧАС, БЕЛАРУСЬ!

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

захапляўся і чый уплыў выразна прасьвечваецца ў шэрагу ягоных пазьнейшых царкоўных кампазыцыяў.

У тым самым часе завязалася ў Куліковіча-Шчаглова другое сяброўства на цэлае жыцьцё зь сябруком-харыстам Сяргеем Жаравам, што стаўся пасьля кіраўніком ведамага на цэлы сьвет хору Данскіх казакоў.

Закончыўшы навуку ў Маскоўскай Кансэрваторыі пад кіраўніцтвам Іпалітава-Іванава, Куліковіч-Шчаглоў у сярэдзіне 1920-х гадоў паехаў працаваць настаўнікам музыкі на Украіну. Ён хутка апанаваў украінскую мову ды з часам напісаў невялікую вязанку песьняў і балядаў у гэтай мове, зь якіх найлепш ведамы раманс «Пісня про Львів».

Каля 1934 году яго паслалі ў родную ягонай маці Смаленшчыну, дзе ён прысьвяціў сябе на цэлае жыцьцё зьбіраньню й вывучаньню беларускага песеннага фальклёру. Першыя смаленскія зборы вырасьлі пасьля ў багатую калекцыю народных песьняў і танцаў, што займалі чатыры рукапісныя тамы. На жаль, у віхуры 1944 году яны былі страчаныя. Украінскі й смаленскі перыяды працы Куліковіча слаба ўдакумэнтаваныя. Цяпер, як выглядае, насьпявае час, каб рабіць далейшыя росшукі на месцы. У 1937 годзе ажыцьцяўляўся афіцыйны плян разьвіцьця сымфанічнае музыкі ў савецкай Беларусі, і Куліковіч-Шчаглоў быў назначаны за дырыгента сымфанічнае аркестры Ўсебеларускага радыякамітэту ў Менску. Ён пачаў пісаць музыку для аркестры і быў прыняты ў Саюз кампазытараў БССР. Сталінскія рэпрэсіі былі ў самым гарце тады, і шмат ягонага творчага высілку, як і многіх іншых, было скіравана на тое, каб выжыць. Маючы востры розум і жвавы характар, Куліковіч-Шчаглоў прыстасаваўся, каб неяк перажыць ліхалецьце, паказваючы лаяльнасьць ды працуючы на рэлятыўна бясьпечным полі народнае музыкі й музычнае тэорыі, якую ён выкладаў у Менскай Кансэрваторыі.

Зь ліку ягоных раньніх твораў гэнага пэрыяду трэба назваць аркестрацыю беларускіх народных мэлёдыяў у «Беларускай сюіце», канцэрт для фартэпіяна, сымфоніі №№ 1 і 2, апошняя зь якіх была пабудаваная ў вялікай меры на фальклёрным матар'яле, ды калектыўна напісаную «Кантату аб Сталіне». Ягоную сымфонію № 2 зрэцэнзаваў у часапісе «Советская музыка», разам зь пятай сымфоніяй Д. Шастаковіча, выдатны расейскі крытык А. Астрацоў, які, адзначыўшы добрую інструмэнтацыю, раскрытыкаваў беларускага кампазытара за «схэматычную» структуру твору ды нясьмелае трактаваньне фальклёрнага матар'ялу. Кампазытар, на думку крытыка, зашмат трымаўся народных мэлёдыяў, выставіўшы сябе на небясьпеку падаць звычайны «рэпартаж» і «пастаральную ідылію». Ягоная «Сымфонія», як выглядае, згубілася, за выняткам двух фрагментаў, прыведзеных у рэцэньзіі Астрацова.

У 1940 годзе Куліковіч дапісаў опэру «Кацярына», што была замоўленая да Дэкады беларускае савецкае культуры ў Маскве. Прэм'ера адбылася ў тэатры імя Станіслаўскага. У гэтым творы Куліковіч-Шчаглоў, як выглядае, ухіліўся ад ранейшых агрэхаў (калі ўважаць, што крытыка Астрацова была слушнай) і сустрэў больш прыхільныя рэцэньзіі. Як і ў сваёй «Сымфоніі», кампазытар імкнуўся, уводзячы народныя матывы, перадаць настрой і вобразы беларускай гістарычнай мінуўшчыны. Тэндэнцыйнае да пэўнай ступені лібрэта М. Клімковіча пераносіла дзею ў 16-е стагодзьдзе на фоне ўсенароднага, быццам-бы, змаганьня Расейцаў, Беларусаў і Ўкраінцаў (на чале якога стаяў Іван Грозны (?!) супраць зборышча сьмехувартых і п'яных «польскіх» паноў. На шчасьце, у гэтым сталінскім маскарадзе быў і элемэнт каханьня, і кампазытар выразна аддаў сваё найлепшае гэтаму пабочнаму сюжэту, бо Кацярыніна стройная арыя «Павей вецер, павей буйны» ды ейны дуэт із сваім каханкам Рыгорам «Прытулілася каліна» ўвайшлі пасьля як сталыя нумары ў ягоны пазьнейшы канцэртны рэпэртуар. Другі вядучы савецкі крытык А. Ліўшыц, магчыма, лепш абазнаны зь беларускім фальклёрам ды памятаючы, што Куліковіч-Шчаглоў ушанаваў і гэбрэйскую музыку ў сваёй «Сымфоніі», даў опэры хвалебны агляд.

Пасьля ўзьяднаньня Беларусі ў верасьні 1939 году, у тым самым годзе, Куліковіч-Шчаглоў быў уключаны ў дэлегацыю на чале зь Янкам Купалам, якая наведала Заходнюю Беларусь, каб устанавіць там стан мастацтва. Кампазытар апублікаваў адмоўна гіпэрбалізаваную справаздачу із свайго падарожжа ў артыкуле «Музыкальное искусство Западной Белоруссии», тлумачэньне да якога ён даў, па вайне ўжо, у ўспамінах пра Янку Купалу. Ён працягваў пісаць у ўсесаюзны часапіс «Советская музыка», стаўшыся фактычна ягоным беларускім карэспандэнтам. Там была апублікаваная ягоная карэспандэнцыя пра Дэкаду беларускага мастацтва, што адбылася ў Маскве ў чэрвені 1940 году, а таксама агляд музычных дасягненьняў сваіх сяброў з Саюзу кампазытараў БССР: Туранкова, Залатарова, Пукста, Цікоцкага й Любана ды прадстаўнікоў малодшага пакаленьня: Падкавырава, Папова, Лукаса, Палонскага і Іванова.

«Кампазытар у нашай краіне,— пісаў ён шматзначэнна,— ня толькі кваліфікаваны музыка, але таксама носьбіт ідэялагічных вартасьцяў». Аднак у 1941 годзе Куліковіч-Шчаглоў пастанавіў, што ёсьць іншыя ключы, як «вывучаньне марксызму-ленінізму... для правільнага разуменьня нашай місіі», і ў тым часе як танкавыя дывізіі нямецкага вэрмахту праразалі наскрозь Беларусь, ён разам із сваймі рашчараванымі калегамі Туранковым і Равенскім, пастараўся ня трапіць на апошні цягнік зь Менску.

На працягу 1941—42 гадоў Куліковіч-Шчаглоў здолеў аднавіць сваё зьбіраньне песеннага й музычнага фальклёру. У 1943 годзе частка пладоў ягонае працы й досьледаў была апублікаваная ў Менску ў невялікай кніжцы пад заг. «Зборнік купальскіх і жніўных беларускіх песьняў», у якім былі паданыя аранжыроўкі гэткіх песьняў, як «Ішла Купалка», «Васілёчак», «Сяньня Купала, а заўтра Ян», «Ой, рана на Йвана», «А жнеце, жнеячкі» ды «А ў нас сяньня вайна была». Ён напісаў шэраг артыкулаў на музычныя тэмы для «Беларускай Газэты» і «Новага Шляху» пра Міхала Глінку, пра музычную культуру Смаленшчыны, пра народныя інструмэнты ды іншае. Ён таксама заняўся ў Менску Тэатрам Эстрады, пішучы для яго лёгкую й гумарыстычную музыку.

У гэтым самым часе Куліковіч стварыў опэру на лібрэта добра ведамае паэтэсы Натальлі Арсеньневай «Лясное возера» — гісторыя трагічнага каханьня князя й сялянскай дзяўчыны. Гэта была першая беларуская опэра, створаная без умяшаньня бюракратычнае ідэялёгіі. Кампазытар зьвярнуўся ізноў да мінуўшчыны й да фальклёру свайго краю. Прэм'ера опэры адбылася 28 лютага 1943 году ў гістарычным Менскім Народным Тэатры і, незважаючы на цяжкія ваенныя абставіны, ішла колькі тыдняў ды перадавалася праз Менскае радыё. У вядучых ролях выступілі Д. Самохін і Ніна Бандарэнка. Алесь Карповіч пра опэру пісаў: «Аўтар ня проста «цытуе» песьні, ён бярэ зь іх найбольш характэрныя музычныя інтанацыі, ён імкнецца прачуцца ў самую існасьць народнага песеннага матар'ялу».

Аднаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што была здушаная Саветамі ў 1922 годзе, натхніла кампазытара на рэфармаваньне беларускае царкоўнае музыкі, каб надаць ёй больш нацыянальнага характару.

Куліковіч заняўся таксама кампанаваньнем «мадэрных» танцавальных і песенных мэлёдыяў. У гэтай галіне ён дасягнуў, бадай, найбольшае ўдачы, забясьпечыўшы сабе трывалае месца ў ацэнках сваіх суродзічаў. Ягоны «Юнацкі сьпеўнік», выдадзены ў Менску ў 1943 годзе Саюзам Беларускае моладзі, разам з папулярнымі народнымі песьнямі ў апрацаваньні Туранкова, Мацісона й Равенскага, меў шэраг патрыятычных песьняў і рамансаў: «О, Беларусь, мая шыпшына», «У гушчарах», «Пагоня», «Ад родных ніў», што па сёньняшні дзень сьпяваюцца па цэлым сьвеце, дзе толькі сустракаюцца эмігранты.

У 1944 годзе, калі ўжо савецкія войскі падыходзілі пад Менск, Куліковіч-Шчаглоў скончыў сваю найвыдатнейшую опэру «Усяслаў Чарадзей», ізноў-жа на лібрэта Натальлі Арсеньневай, зь дзеяй з далёкай гістарычнай мінуўшчыны. У сакавіку таго году ўжо было мала шанцаў на паказ опэры, але ейная прэм'ера была дадзеная праз Менскае радыё. Апавяданьне пра Полацкага князя, які, засумаваўшы па радзіме, адмаўляецца ад кіеўскага княжага пасаду, каб вярнуцца да сябе на Бацькаўшчыну, не толькі было запярэчаньнем «супольнага змаганьня» Усходніх Славянаў—тэма Клімковічавай опэры «Кацярына» — а паказвала й на шуканьне кампазытарам нацыянальнае ідэнтыфікацыі для свайго народу, музыка якога сталася глыбокай арганічнай часткай ягонага творства. Пацьверджаньнем гэтаму служыць факт, што арыі з «Усяслава Чарадзея», гэткія як песьня Лады, сталіся ўлюбёнымі нумарамі ягонага канцэртнага рэпэртуару.

Куліковічава адданасьць справе беларускага нацыянальнага адраджэньня няўхільна прывяла яго й да прыняцьця ролі музычнага кіраўніка ў часе працы Другога Усебеларускага Кангрэсу, скліканага Беларускай Цэнтральнай Радай. Крок гэты вымагаў пэўнае адвагі з боку ўдзельнікаў Кангрэсу, паколькі ў чэрвені 1944 году было ўжо ясна, што дзяржавы Восі пратрацілі вайну. Але бел-чырвона-белы сьцяг яшчэ ўсюды разьвяваўся, і патрэбная была бадзёрая патрыятычная песьня, якою Куліковіч-Шчаглоў выдатна валодаў.

Колькі дзён пазьней разам з Равенскім Куліковіч эвакуаваўся ў Нямеччыну. Туранкоў, паверыўшы ў абяцаную «партызанамі» бясьпеку, застаўся ў Менску чакаць вызваленьня: яго адразу ж схапілі й выслалі ў канцэнтрацыйны лягер на Ўсход, дзе дзесяць гадоў нявolі пакінулі яго з разьбітым здароўем.

У 1944 годзе ў Бэрліне была апублікаваная кніга Куліковіча-Шчаглова «Беларуская музычная культура».

Калі скончылася вайна, кампазытар апынуўся ў палажэньні чалавека, якому, як нараджэнцу Масквы, пагражала дэпартацыя на Ўсход на прыхамаць таго ці іншага няпрыхільнага саюзьніцкага бюракрата. Дзеля гэтага якраз ён пачаў карыстацца прозьвішчам маці, Куліковіч, прысьвячаючы справе арганізацыі культурнага жыцьця ў лягерох перамешчаных асобаў, дзе тысячы Беларусаў змушаныя былі дзяліць свой выгнаньніцкі лёс.

Супольна з групай актораў і пісьменьнікаў Куліковіч зарганізаваў паходную трупу «Беларускі тэатр эстрады», у рэпэртуары якога былі кароткая п'еса Н. Арсеньневай «Купальская ноч», опэрныя арыі, народныя танцы, дэклямацыі, народныя песьні, балетныя нумары, скечы ды лялькавыя паказы. Шмат якія з гэтых нумароў і большыня музыкі належалі Куліковічу, які выявіўся таксама здольным лібрэтыстам («Цыганская рапсодыя», «Усьмешкі каханьня»). Куліковіч-Шчаглоў сам выступаў як сьпявак і актор, часта выконваючы камічную ролю пантамімавае дамы, што ён рабіў зь вялікім смакаваньнем. Адным з суўдзельнікаў гэтых паказаў быў Пётра Звонны, аўтар і кампазытар шырака папулярнай песьні «Ідуць жаўнеры-Беларусы». Выступленьні Беларускага тэатру эстрады перад балцкімі, расейскімі, украінскімі і нават нямецкімі аўдыторыямі адыгралі важную ролю ў пашырэньні веды пра беларускую сур'ёзную музыку ды лёгкае забаўляньне. Куліковіч напісаў музыку да шэрагу кароткіх п'есак, камэдыяў, вадэвіляў і скечаў.

Гай ПІКАРДА.

(Заканчэнне будзе).

## ПАМЯЦІ ПАЭТА СЫМОНА БЛАТУНА

# БРАТАМ НА ЧУЖЫНЕ

У глыбіні Палесся, далёка ад чыгункі і дняпроўскага прычала, у затуленай хмызамі і каноплямі вёсцы Кавака на Брагіншчыне 10 мая 1937 года нарадзілася ў адной сям'і дванаццатае па ліку дзіця — хлопчык Сымонка.

Заўсёды задуменны і ўражлівы, вучыўся ён вельмі старанна і скончыў Брагінскую беларускую сярэднюю школу з залатым медалём. Пасля вучыўся на журналіста ў дзяржаўным універсітэце ў Мінску і атрымаў дыплом выдатніка.

Радасць сельскага жыцця і працоўных клопатаў пакінула ў душы Сымона глыбокі след. Яна часта ажывала ў ім і пераліваласяў дасканалыя радкі, калі ён стаў вядомы ўжо як паэт Сымон Блатун.

Зместам яго паэзіі зрабілася любоў да роднага краю, да людзей працы. Прыгажосць жыцця і каханне ў паэзіі Блатуна арганічна знітаваны з прыгажосцю працы, яе працэсам альбо вынікам.

Сымон Блатун жыў у Мінску і працаваў літаратурным кансультантам у газеце «Літаратура і мастацтва», а затым і ў газеце «Чырвоная змена». Але знаходзячыся ў сталіцы, не забываў пра родны кут на Палессі. Кожнае лета ездзіў туды і акунаўся ў вір знаёмага змалку жыцця. Гэтыя паездкі жывілі яго вельмі яскравы талент і абуджалі нястрымную прагу да творчасці.

У 1968 годзе выдавецтва «Беларусь» выпусціла першы зборнік Сымона Блатуна «Раўнавага». Кніга была надзвычай высока ацэнена чытачамі і крытыкамі.

Поспех падбадзёрыў і натхніў Сымона на працу над новай кнігай «Радаслоўнае дрэва», якая таксама не затрымалася ў друку. На вялікі жаль, аўтару не давялося яе ўбачыць. Вясною 1970 года пры трагічных абставінах паэта не стала. Засталася цудоўная паэзія, якая заўсёды будзе радаваць чулых да яе людзей. Я прапанаваў бы ўвазе чытачоў яго верш, прысвечаны нашым замежным землякам.

**Аляксей СЛЕСАРЭНКА.**

**Сымон БЛАТУН**

* * *

**Не тым, хто ў страху бег у край чужы**
**Ад гневу справядлівага расплаты,**
**Не тым, хто распісаўся на ілжы**
**І стаў народа ворагам заклятым.**

**А вам, сумленным, шчырым землякам,**
**Хто родны кут пакінуў не па волі,**
**Хто з торбачкай паплыў за акіян**
**У пошуках лягчэйшай долі,**

**Хто быў занесен хвалямі вайны**
**У невядома якія далі...**
**У вас ёсць ўнукі, дочкі і сыны,**
**Вы ім пра край свой родны расказалі!**

**Пра шум бароў, пра водар медуніц,**
**Пра квецень веснавога саду.**
**Пра звон ручноў і чысціню крыніц,**
**Пра залатыя лісці лістапада.**

**Ці расказалі дзецям пра буслоў,**
**Ці матчыну спявалі калыханку,**
**Што сплецена з дзівосных красак-слоў,**
**Смугой спавітых, быццам луг у ранку!**

**Вы раскажыце, раскажыце ім**
**Пра гоні, пушчы, па якіх хадзілі,**
**І будзе не так горка вам самім,**
**Лягчэйшым стане смутак па Радзіме.**

## ЖЫЎ У ВІЛЬНІ ДЗЯДЗЬКА ЯНКА

Янка Багдановіч... Гэтае імя вядома тым, хто цікавіцца жыццём даваеннай Вільні. Сваёй штодзённай працай ён уносіў сціплы ўклад у беларускае нацыянальнае Адраджэнне. Менавіта друкар Я. Багдановіч разам са сваімі аднадумцамі пачаў у 1929 годзе выпускаць часопіс «Шлях Моладзі», у якім выступаў і з уласнымі вершамі, апавяданнямі, нататкамі. А перад тым Я. Багдановіч выхоўваўся ў Барунскім прытулку і ў Беларускім прытулку ў Вільні, вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі.

Карацей кажучы, жыццё гэтага чалавека вартае прачытання. Я. Багдановіч недзе і сам пра гэта здагадваўся, таму напісаў успаміны аб перажытым, у тым ліку ў сталінскіх лагерах. Аб'яднаныя назвай «На жыццёвым шляху», яны толькі што выйшлі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» з прадмовай А. Ліса.

На жаль, сам аўтар іх пабачыць не паспеў: Я. Багдановіч памёр у ліпені 1990 года. І вельмі шчымліва чытаць яго апошні ліст, які ўспрымаецца як завяшчанне: «Можа, з часам сціплыя нататкі гэтыя ўбачаць свет і будуць чытаць іх унукі і праўнукі, ды ўспомняць дзядзьку Янку, што жыў у Вільні і працаваў для дабра Радзімы. Любіў усіх беларусаў, шанаваў і другія народы, каторыя жылі чэсна і справядліва, не імкнуліся падбіць сваіх суседзяў...»

## «МАСТАЦТВА» — НОВАЯ ГАЛЕРЭЯ

У кароткім пакуль што спісе мінскіх мастацкіх галерэй з'явілася яшчэ адна — галерэя «Мастацтва», стваральнікам якой выступіла малое прадпрыемства «Дызайн-імпэкс», што пры Беларускім фондзе культуры. Размясцілася яна ва ўтульным інтэр'еры магазіна «Мастацтва» на праспекце Машэрава. Арганізатарам удалося з самай першай экспазіцыі даволі высока ўзняць планку. У выставе твораў жывапісу і графікі прынялі ўдзел такія вядомыя ў рэспубліцы і за межамі Беларусі майстры, як А. Марачкін, М. Селяшчук, У. Сулкоўскі, Р. Несцераў, Г. Ціхановіч. Разам з імі ўдала ўпісалі ў агульную экспазіцыю свае працы У. Паўлавец, Л. Балцэвіч, А. Родзін, Г. Іваноў і іншыя маладыя мастакі, кожны са сваёй адметнай творчай манерай.

Новая галерэя плануе праводзіць персанальныя і групавыя выставы беларускіх мастакоў, наладжваць вытворчасць і рэалізацыю малых серый экслібрысаў, пластыкі.




# «ПЯРЭЗВЫ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Сярод іх такія самабытныя, як народны этнаграфічны ансамбль «Лёс» з вёскі Бабічы Чачэрскага раёна, фальклорны гурт вёскі Левашы Рэчыцкага раёна, фальклорна-этнаграфічны калектыў вёскі Курганне Рагачоўскага раёна, гурт народнага танца і спеваў «Явар» Мазырскага мастацка-краязнаўчага музея. Не пакінула раўнадушным выступленне гарманістаў з вёскі Варатынь Бабруйскага раёна і інструментальнага дуэта з вёскі Мяркулавічы Чачэрскага раёна. Цёпла сустрэлі гледачы і журы выступленні салістаў — Эміліі Кірышынай з вёскі Беланавічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці, Кастуся Дамасевіча з Гомельскага раённага Дома культуры і Аксінні Паўлавай з вёскі Сенькава Горацкага раёна Магілёўскай вобласці.

Журы высока ацаніла выканаўчае майстэрства фальклорнага калектыву «Душа» вытворчага аб'яднання «Крычаўцэментшыфер». Адзначаны і рэпертуар, і сцэнічная культура. І хоць узрост удзельніц даволі сталы, але чысціня голасу, любоў да народнай песні, старадаўняга танца вызначае гэтых выканаўцаў. У ансамбля шмат прыхільнікаў, яго мастацтва цешыць душы гледачоў рознага ўзросту.

Тое самае можна сказаць і пра фальклорны калектыў з вёскі Янова Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. Яго ўдзельніцам ужо за 70, але іх карагодныя танцы, песні напоўнены жыццёвай энергіяй, прыгажосцю, непаўторнасцю. Вельмі арыгінальны самабытны фальклорны калектыў з вёскі Варатынь Бабруйскага раёна з нязменным гарманістам — старшынёй калгаса Віктарам Тумашэнкам.

Праграма заключнага этапу фестывалю «Пярэзвы» пачалася святочным шэсцем удзельнікаў фестывалю па вуліцах Бабруйска. Вечарам у Палацы культуры «Шыннік» адбыўся канцэрт мастацкіх гуртоў Магілёўскай і Гомельскай абласцей. Наступныя дні былі аддадзены агляду мастацкіх праграм фальклорна-этнаграфічных калектываў, інструментальных гуртоў, салістаў-танцораў, музыкаў, спевакоў. А потым удзельнікі конкурсу раз'ехаліся з канцэртнымі праграмамі ў розныя раёны Магілёўскай і Гомельскай абласцей.

Заключны этап фестывалю ператварыўся ў сапраўднае свята фальклору. Удзел у ім прынялі не толькі пераможцы папярэдніх тураў, але і госці — калектывы народна-сцэнічнага танца з Расіі, Латвіі, Аўстрыі, Польшчы.

У час фестывалю быў праведзены «круглы стол», дзе вялася размова аб праблемах адраджэння і захавання народнай харэаграфіі. Усе дні працавалі выстаўкі народных касцюмаў і музычных інструментаў Магілёўскай і Гомельскай абласцей, відэа-салон, экспрэс-фота і інш.

Трэба зазначыць, што выйсці пераможцам у гэтым фестывалі было складана, бо ўмовы конкурсу даволі жорсткія. Напрыклад, па яго правілах, удзельнікі павінны былі выконваць песні, музыку, танцы, пачутыя па радыё, па тэлебачанні, перанятыя ў іншых раёнах або развучаныя па нотах. Музычнае афармленне — без фанаграм. Касцюмы таксама павінны падкрэсліваць рэгіянальна-мастацкія асаблівасці, быць аўтэнтычна-этнаграфічнымі. Адным словам, удзельнікі стаялі перад канкрэтнай задачай: паказаць тое, што складае аўтэнтычнасць, непадобнасць фальклору свайго краю, сваёй вёскі.

Высокія патрабаванні і да выканаўчага майстэрства. Улічваліся і музычнае рашэнне харэаграфічных твораў, і арыгінальнасць балетмайстарскіх работ, артыстычнасць, культура касцюма, здольнасць імправізаваць, і шмат іншага. Несумненна, членам журы было аб чым паспрачацца, перад тым як прыйсці да згоды.

Чаго ж мы чакаем ад такіх фестываляў? Наогул ад такіх мерапрыемстваў? Перш за ўсё, убачыць, што маем. Па-другое, фестывалі ствараюць магчымасць згуртаваць усе зацікаўленыя ў адраджэнні сілы: тэарэтыкаў, навукоўцаў, кіраўнікоў мастацкіх калектываў — дзеля захавання і развіцця беларускага харэаграфічнага фальклору як асновы самабытнай танцавальнай культуры, як крыніцы натхнення для прафесійнага мастацтва.

**Тамара КАРОЛЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ:** у час фестывалю ў Бабруйску.





## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА

РОДНЫ КРАЙ 1992

10 мая, нядзеля

## МІНСКАЯ КОНКА

Запрэжаныя коньмі пасажырскія вагончыкі ўжо каталіся па рэйках многіх гарадоў Расіі, буйнейшыя і багацейшыя з іх пачалі ўводзіць трамвай. Мінская ж гарадская ўправа, якая заўсёды адчувала грашовую нястачу, здавальнялася конкай. Будаўніцтва пачалося ў 1891 годзе. Яго вяло Акцыянернае таварыства гарадскіх і прыгарадных конна-чыгуначных дарог у Расіі, якое ўзначальваў пецярбургскі інжынер Гарчакоў. Непасрэдна кіраваў работамі інжынер Ляхоўскі.

Рэйкавыя шляхі паступова будаваліся і да 1899 года склалі 7,3 вярсты. Новы від транспарту злучыў цэнтральную плошчу Мінска — Саборную (зараз плошча Свабоды) з чыгуначнымі вакзаламі, Нізкім рынкам, Старажоўкай, Камароўкай. Праезд каштаваў 3—4 капейкі да 1896 года, а затым 5—6 капеек. Памяркоўная плата рабіла конку даступнай для шырокага кола мінчан. У 1903 годзе ёю карысталася 1 376, а ў 1914 годзе—1 863 тысячы чалавек.

Абслугоўвалі конку 60 служачых (1905 год). Яны працавалі ад цямна да цямна ў любое надвор'е, хоць плацілі ім менш, чым чорнарабочым. Затое гаспадары-акцыянеры былі задаволены: іх прыбыткі былі вышэйшымі, чым у фабрыкантаў. У красавіку 1893 года служачыя конкі правялі першую няўдалую забастоўку, але ў 1905 годзе ўсё ж змаглі дабіцца паляпшэння ўмоў працы. Забастоўкамі (чэрвень і кастрычнік) кіравала мінская група РСДРП.

У 1912 годзе гарадская ўправа выкупіла конку ў акцыянернага таварыства за 212,5 тысячы рублёў. Да канца 1914 года меркавалася ўвесці трамвай, але перашкодзіла вайна. Трамвай замяніў конку толькі ў 1929 годзе. Ён прайшоў па аднаму з маршрутаў конкі (зараз гэта маршрут ад Інстытута культуры да плошчы Перамогі). Сёння ў гэтым кірунку імчаць вагоны Мінскага метро.

З. ШЫБЕКА, С. ШЫБЕКА.

11 мая, панядзелак

## БУСЬКО

Да буслоў у нас адносіліся з нейкай пяшчотнай павагай. Называлі не інакш, як буськамі. І кожны стараўся, каб на яго котлішчы жыла гэта птушка. Лічылася нават, што тады хату міне маланка, што ў сям'і будзе шчасце.

Але тое было калісьці. Асушылі суседнія балоцейкі, выпрасталі рачулкі, спусцілі ваду — і буслы пакінулі вёску.

...Палявой дарогаю вяртаюся дадому. Хмарна. Цярусіць дождж. Паказаліся першыя хаты. Перад імі, заместа колішняй лугавіны, — цямнее пярэстая ралля. «Заглыбака пусцілі плугі, падумалася. Ажно да глею дасталі».

На ўскрайку раллі заўважаю бусла. Мурзаты і ўсё роўна як сонны хадзіў ён пад дажджом. І ні тае пастаўы, ні тае грацыёзнасці, што мы прывыклі бачыць у гэтых птушак,— адна заклапочанасць.

На душы рабілася прыкра: «Бусько месіць гразкую раллю і здзіўляецца: а што сталася, пакуль быў у выраі!..»

Мы часам такое пытанне і не задаём сабе.

Яраслаў ПАРХУТА.

29 мая, пятніца

## ЗЯЗЮЛЯ

У славутай паэме Якуба Коласа «Сымон-музыка» ёсць такія радкі:

Кукавала штось зязюлька,
Мо лічыла ім гады.
Ды якія! Хто згадае!
Варажыла, ды пра што!

Паэт паўтарыў тут вядомае беларускае павер'е. Паводле яго, зязюля была аракулам, прарочыцай, якая можа перадаць людзям прароцтвы багоў. Падобнае ўяўленне пра гэтую птушку было і ў старажытных індыйцаў, германцаў, грэкаў. Апошнія верылі, што ў абліччы зязюлі мог з'явіцца сам Зеўс і паведаміць чалавеку пра яго далейшае жыццё.

Зычны, характэрны голас рабое птушкі быў знаёмы і старому, і малому. Прылёт зязюлі з выраю звычайна супадаў са з'яўленнем лістоты, калі выводзіліся вусені, якімі яна і харчуецца. І калі зязюля першы раз кукавала на зялёным дрэве, то лічылася, што год будзе ўраджайным, і наадварот... Падобную прыкмету звязвалі і з першым громам. І калі гром грымеў на «пусты» лес, то трэба было чакаць недароду.

Супадзенне прыкмет дае падставу лічыць зязюлю вястункай самога Перуна — галоўнага паганскага бога. (Пярун — беларускі адпаведнік грэчаскага Зеўса, якога Гамер называў Грамавержцам).

Але пасля прыняцця нашымі продкамі хрысціянства культ Перуна паступова занепадае. Усё часцей, поруч з прарочай функцыяй зязюлі, імя гэтай птушкі пачало спалучацца з жалобай. Голас яе пачалі ўяўляць плачам. Гэта і адбілася ў загадцы: «За борам баранскім, за лесам лясанскім плакала каралеўна голасам панскім». У беларускіх народных песнях зязюльчына кукаванне параўноўваецца з жальбою дзяўчыны, якую аддаюць замуж, з галашэннем маці, якая выпраўляе сына ў салдаты.

«Ой, некаму знаці даці, жаўнера хаваці.
Паляцела зязюленька ў цёмны бор каваці...»

Здзіслаў СІЦЬКО.



## КОНКУРС «СУПЕРМАДЭЛЬ СВЕТУ-92»

У дэманстрацыйнай зале Беларускага Цэнтра моды нядаўна прайшоў конкурс «Супермадэль свету-92». Яго арганізатарамі сталі рэкламная фірма Аляксандра Варламава, агенцтвы «Форд модэлз» і «Істэрн модэлз».

Такое мерапрыемства праводзілася ў Беларусі ўпершыню. Звыш сямісот дзяўчат ад 14 да 20 гадоў вырашылі паспытаць шчасце ў гэтым конкурсе. І толькі тры пераможцы маглі разлічваць на паездку ў Парыж на першы тур конкурсу «Супермадэль свету-92». Пасля — фінал у амерыканскім горадзе Лос-Анджэлесе.

Чаму для такога, без перабольшання сказаць, шоу была выбрана Беларусь? Кароткі каментарый кіраўніка рэкламнага агенцтва «Форд модэлз» францужанкі Дамінікі Кафін:

— Вашы дзяўчаты, несумненна, вельмі прыгожыя. І калі б крыху больш вопыту, то яны змаглі б на такіх конкурсах скласці сур'ёзную канкурэнцыю вядомым манекеншчыцам свету.

Менавіта — манекеншчыцам. Бо гэты конкурс у Мінску не конкурс прыгажосці. Як адзначыў адзін з яго арганізатараў Аляксандр Варламаў, галоўнае, каб вобраз будучай пераможцы быў кідкі, яркі, запамінальны, бо яе праца — прафесійная рэклама, рэклама адзення ці зубной пасты, брыльянтаў ці гуталіну... Усё павінна запамінацца, прывабліваць і надоўга заставацца ў памяці.

Дык хто ж паедзе ў Парыж? Па задуме арганізатараў конкурсу, павінна была паехаць толькі адна дзяўчына. Але Дамініка Кафін не ўтрымалася і выбрала трох — яны ж такія мілыя і прывабныя!

Цяпер непасрэдна аб шчаслівых пераможцах. Гэта Каця Чайка. Пасля сярэдняй паступіла ў Беларускую школу рэкламных мадэлей.

Наталля Мазала заканчвае сярэднюю школу. Як і Каця, пакуль нідзе і нічым сябе не праявіла.

А Машы Заленскай усяго 15 гадоў..

Вядома, мы жадаем нашым дзяўчатам поспеху на наступных турах «Супермадэлі свету-92». Галоўнае ж, і гэта добра вядома, пераможцы паедуць у Парыж, Вену і Токіо пасля не турысткамі, а па працоўных кантрактах. Будуць у іх і прыгожае жыццё, і вялікія грошы... Вось толькі б не захварэць на «зоркавую» хваробу, не згубіцца ў гэтым вялікім свеце, не адарвацца ад сваёй Бацькаўшчыны, Радзімы. Адным словам, застацца беларускамі.

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

НА ЗДЫМКАХ: у час конкурсу.

Фота В. СТАВЕРА.





РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку» Індэкс 63854. Зак. 984.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12